КНІГА НОША
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 54
сакавік, 2019
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Наталля ГАРДЗІЕНКА:

# «Мова – адбітак жыццёвага шляху чалавека...»

**– Шаноўная Наталля, не так даўно Вы сталі кіраўніцай секцыі нон-фікшн (непрыдуманай літаратуры), створанай пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Распавядзіце пра ролю літаратуры нон-фікшн у Беларусі? Як заснаванне прэміі імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў у галіне непрыдуманай літаратуры паўплывала на развіццё непрыдуманай літаратуры і стаўленне да яе пісьменнікаў?**

– Роля непрыдуманай літаратуры ў Беларусі, па-мойму, відавочная. Першая беларуская Нобелеўская прэмія – гэта нон-фікшн. Кніга Змітра Бартосіка, якая сабрала ці не ўсе магчымыя беларускія прэміі – гэта таксама непрыдуманая літаратура. Калі паглядзець на папулярныя кнігі апошніх гадоў, то гэта таксама нон-фікшн («Падарожжа ў БНР» і інш). Такім чынам, роля гэтай літаратуры ўсім бачная, кнігі і прэміі гавораць самі за сябе.

Прэмія імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў, як мне здаецца, стала лагічным вынікам гэтага буму непрыдуманай літаратуры ў Беларусі. Ці паўплывала прэмія на развіццё гэтай літаратуры, казаць цяжка. Прэміі наўрад ці на нешта ўплываюць самі па сабе. Але мне хацелася б спадзявацца, што яна прыцягнула ўвагу да гэтага кірунку літаратуры.



фота www.nn.by.

**– Вы аўтар кніг «Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары», «Беларусы ў Вялікабрытаніі», «Рада БНР: Падзеі. Дакументы. Асобы» (разам з Л. Юрэвічам), «Хронікі БІНіМу: Гісторыя Беларускага інстытуту навукі і мастацтваў дакументах, лістах і ўспамінах» (разам з Л. Юрэвічам), а таксама рэдагуеце альманах «Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва» і кніжныя серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка», «Бібліятэка Бацькаўшчыны«, «Галасы Айчыны» і іншых, прысвечаных беларусам замежжа. А калі і як Вы зацікавіліся жыццём нашай дыяспары?**

(Працяг на стар. 7)

### Даведка «Кніганошы»:

**Наталля Гардзіенка – гісторык, кандыдат гістарычных навук. Аўтар кніг «Беларусы ў Аўстраліі: Да гісторыі дыяспары» (2004), «Беларусы ў Вялікабрытаніі» (2010), «Рада БНР: Падзеі. Дакументы. Асобы» (сумесна з Лявонам Юрэвічам, 2013) ды інш. Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.**




**Эспіноса Руіс Анхела. Колер крылаў: паэзія і проза. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 248 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 116).**

У кнігу лаўрэаткі сёлетняй прэміі імя Міхася Стральцова Анхелы Эспіноса Руіс «Колер крылаў» увайшлі паэтычныя творы (як новыя, так і выбраныя з ранейшых кніг), а таксама апавяданні, калумністыка. Асобным раздзелам прадстаўлены пераклады з бенгальскай, англельскай, іспанскай, польскай, рускай, чэшскай і японскай моў.




**Палуян Сяргей. След, вечна жывы: Творы. Успаміны. Прысвячэнні. Даследаванні. Уклад., падрыхт. тэксту, агляд. аналіт. арт., прадмова і камент. Т. Кабржыцкай, В. Рагойшы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 336 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 114).**

Аснову выдання складае творчая спадчына самабытнага публіцыста, крытыка, празаіка і паэта Сяргея Палуяна (1891–1910), рупліва адшуканая даследчыкамі ва ўкраінскай і беларускай перыёдыцы. У кнізе ўпершыню найбольш поўна прадстаўлены ўспаміны пра пісьменніка яго родных і знаёмых, мастацкія творы, прысвечаныя яму, матэрыялы пра радаслоўе Палуянаў. Укладальнікі кнігі ставяць Сяргея Палуяна поруч з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Вацлавам Ластоўскім, рашуча і доказна ўпісваюць яго асобу ў панараму гісторыка-філасофскіх, эстэтыка-культурных характарыстык беларускага Адраджэння пачатку ХХ ст.




**Баторын Фелікс. Яблычны пах цішыні: вершы і паэмы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 308 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 115).**

У гэтую кнігу ўвайшлі вершы, балады і паэма, складзеныя Феліксам Баторыным, за адзінкавымі выключэннямі, у 2007–2018 гадах. Значная іх частка публікуецца ўпершыню. У творах паэта пераважаюць грамадзянская, любоўная, пейзажная лірыка, але гэтым іх тэматыка не вычэрпваецца. Паэтычнай мове аўтара ўласцівыя празрыстая прастата і складаная метафарычнасць, тонкі лірызм, якія, пры ўсёй парадаксальнасці, часта арганічна спалучаецца з філасофскімі развагамі, іроніяй і самаіроніяй. Тым, хто даўно знаёмы з творчасцю паэта, будзе цікава параўнаць змешчаныя ў гэтай кнізе творы з прачытанымі раней. Хто ж пазнаёміцца з паэзіяй Фелікса Баторына ўпершыню і не застанецца абыякавым, зможа звярнуцца да папярэдніх кніг аўтара. У гэтай кнізе таксама змешчаны некалькі перакладаў з розных моў, зробленых Феліксам Баторыным у апошні час.




**Захарэвіч Кацярына. Час Вогненнага Птушкалова: аповесць. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 144 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пунктадліку).**

Пятнаццацігадовая Бася не ўяўляла, хто яна такая, пакуль у дзверы іх з мамай хаты не пастукаліся жаўнеры князя Свету. Яны вышукваюць адметных – расу, якую чамусьці вельмі не любяць звычайныя людзі. Схавацца ад праследу можна толькі ў паселішчы сярод глухога лесу за непаслухмянай Хітрай ракой. Як толькі Бася зачыняе дзверы хаты, шляху назад для яе не застаецца...




**Корф Стэфан. Палескі дыярыуш дывізіі Серакоўскага: містычная аповесць у шасцідзесяці трох днях. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 204 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

1794 год. Дывізія Серакоўскага пераходзіць мяжу Вялікага Княства Літоўскага пад Бярэсцем. Малады шляхціч Ян Ліпініч, што служыць у 1-м палку ўланаў надворных, ідзе на вайну, як на свята. Ён імкнецца хутчэй трапіць у бойку, секчы ворагаў у гонар Радзімы, перамагчы ці пакласці галаву. Але хутка Янка разумее, што прыйдзецца змагацца не толькі супраць людзей, шабля сустрэнецца з кіпцюрамі ды дрэвам і свет таемных пачвар захопіць чалавека. Містычная аповесць прапануе чытачу апынуцца ў шасцідзесяці трох днях, поўных чараўніцтва, вайны ды святаў, істот з балот ды старых багоў лесу, шляхецкай годнасці і адной маленькай таксы.




**Гулік Роберт ван. Следства вядзе суддзя Дзі: восем кітайскіх дэтэктыўных гісторый. Пер. з англ. Г. Янкуты. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 232 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Роберт ван Гулік – нідэрландскі пісьменнік і ўсходазнаўца, найбольш вядомы дзякуючы цыклу твораў пра суддзю Дзі, які разам са сваімі памочнікамі Ма Чжунам, Цяа Таем, радцам Хунам і былым махляром Таа Ганем расследуе загадкавыя злачынствы ў падуладных яму акругах. У апавяданнях са зборніка «Следства вядзе суддзя Дзі» аўтар выкарыстоўвае прыёмы, распрацаваныя кітайскай дэтэктыўнай літаратурай, у тым ліку паралельнае расследаванне некалькіх злачынстваў адначасова.




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. №6, 2018. Укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 228 с.**

Шосты нумар літаратурнага альманаха Гомельскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Палац» знаёміць з паэзіяй, прозай, успамінамі літаратараў гомельшчыны. Артыкулы па гісторыі Гомельшчыны

прапануюць Алег Макушнікаў, Уладзімір Лякін, Валянціна Лебедзева. З мовазнаўчымі доследамі друкуюцца Таццяна Карніеўская, Сяргей Кураш, Вольга Ляшчынская. У рубрыцы «Пабрацімства» друкуюцца Тетяна Таланцева (Нескоромніх), Сніжана Божок, Міхайло Ткач.




**Новы замак: літаратурны альманах. Гродна. MMXVIII. № 7. Укл. Я. Трацяк. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 288 с.**

У сёмым выпуску «Новага замка» надрукаваны вершы, проза, гумар, пераклады, літаратуразнаўства, успаміны і эпісталярый літаратараў гарадзеншчыны. У паэтычным раздзеле публікуюцца Юрка Голуб, Сяргей Чыгрын, Рычард Бялячыц, Ала Нікіфорская, Раіса Раманчук ды інш. У раздзеле «Проза» друкуюцца творы Валянціна Дубатоўкі, Міхася Зізюка, Альжбеты Кеда, Віктара Сазонава, Янкі Трацяка, Уладзіміра Хільмановіча, Віктара Шалкевіча ды інш. Пад рубрыкай «Літаратуразнаўства» змешчаны артыкулы Альжбеты Кеда «Кнігі ў кнізе» і Надзеі Чукічовай «У рожкі са старымі, альбо “Тралялёначка” як наратыўны эксперымент».




**Валер Гапееў. Пазл: раман. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 330 с.**

Што наш лёс, як не вынік дзейнасці дзясяткаў і соцень чалавек вакол? Што містыка, як не збег шматлікіх абставін? Што чалавек у сістэме? Жывёлінка дрыжачая ці права мае на свой суд, калі сляпыя і глухія суд дзяржаўны, суд людскі і суд Божы? Што ўрэшце наша жыццё, як не адзіны вялізны пазл, дзе кожны фрагмент счапляецца з іншымі, якія не намі маляваліся, не намі выразаліся… Жорсткі рэалізм на зрэзе сучаснага беларускага грамадства з героямі ад уладных чыноўнікаў да бадзякоў, без міфаў пра талерантнасць і рахманасць, без сентыментаў і спробаў шкадавання – у новым рамане Валера Гапеева.




**Брава Алена. Садомская яблыня: раман. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 336 с.**

У новым творы аўтаркі правакацыйнага рамана «Менада і яе сатыры» тэлевядоўца Інга Куродым вядзе свой прыватны рэпартаж, поўны горкага сарказму, з эпіцэнтра «звычайнай надзвычайнай сітуацыі», дзе жанчыны — «зручныя чалавекаадзінкі штатнага раскладу». Грамадства гатовае бачыць у жанчыне найперш маці, потым — працаўніцу, істоту «прыгожую, пяшчотную і крышачку ранімую, асабліва ў дзень, калі чутныя першыя цяжкія крокі вясны па нашай планеце, і вам дораць кветкі з антыпрыгарнымі патэльнямі». З юнацтва Інга Куродым гуляла па чужых правілах, але больш не можа даць рады свайму задушанаму гневу. Раман можна прачытаць як пазбаўленую табу споведзь сучасніцы, як сатыру на карумпаваную правінцыйную бюракратыю альбо як «гісторыю хваробы». Гумар ідзе побач з сімвалам і міфам, саладжавая мова ружовага чытва змяняецца брутальным прастамоўем, бязлітасны псіхалагічны аналіз суседнічае са шчырасцю інтымнага дзённіка. «Садомская яблыня» прапануе задумацца над вострасучасным і вечным.




**Белаяр Сяргей. Расследаванні інспектара Сарвы: фантастыка. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 320 с.**

Навукова-фантастычныя апавяданні. Міжпланетныя пералёты, жыццё на Марсе, крымінал… У аснове кнігі не толькі загадка, таямніца, але і той, каму (ці не адзінаму) пад сілу яе разгадаць. У XXII стагоддзі змяніліся ўмовы жыцця, тэхналагічны прагрэс праглынуў чалавецтва без астатку, злачынствы не зніклі, ды, на шчасце, з’явіўся пераемнік спадара Холмса – інспектар Дэпартамента пазаземных крымінальных расследаванняў Ратаўт Сарва.




**Шэр Брыгіта. Пакатун і Паляжун. Пер. з ням. Ірыны Герасімовіч. Іл. Ферэны Бальхаўс. – Мінск: Галіяфы, 2018. – 36 с.**

Пакатун і Паляжун – дзве казачныя істоты, якія хоць і не падобныя да людзей, але дзейнічаюць і адчуваюць, як мы з вамі. Характары ў іх вельмі розныя: Пакатун – энергічны, рызыкоўны, на месцы яму ніяк не сядзіцца, а вось Паляжун – стрыманы, памяркоўны, часам трохі баязлівы. Як у любых адносінах, у іх бываюць і імгненні пяшчоты, і супольныя гульні, і адкрыцці, але не абыходзіцца і без сварак. У канцы яны наогул збіраюцца развітацца назаўжды, але ці змогуць? Пятнаццаць паэтычных гісторый пра радасці і пакуты супольнасці. Гісторыі з жыцця, якія дапамагаюць навучыцца называць розныя станы і пачуцці, што бываюць паміж людзьмі.




**Вісландэр Юя, Гефенблад Лота. Ёрдзіс. Пераклад са шведскай Надзі Кандрусевіч. – Мінск, ІП Кандрусевіч Надзея, 2018. – 104. с.**

У кнізе пра дзяўчынку Ёрдзіс шведская дзіцячая пісьменніца Юя Вісландэр узгадвае сваё дзяцінства ў 1950-х гадах у Швецыі. Ёрдзіс жыве ў адным з раёнаў Стакгольма Хагалундзе разам з мамай, татам, сястрой і бабуляй. Дзяўчынка распавядае нам пра розныя цікавыя здарэнні са свайго жыцця.




**Вішнёў Зміцер. Калі прыгледзецца – Марс сіні: антыраман. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 276 с.: іл.**

Антыраман Змітра Вішнёва – гэта гімн свабодзе. Паралельныя сусветы рушаць хвалямі – у гэтым варыве ўзнікаюць сілуэты: капітана Барады, Майкла Крывога, Сталіна, Дон Кіхота, Пінокіа, Карлсана, гномаў і таемных курдупеляў. Аўтар лавіруе паміж гандляром, фокуснікам і арбітрам, вядзе бясконцы дыялог з галавой, цешыцца і плюхаецца ў космасе сваіх пачуццяў.




**Бахарэвіч Альгерд. Мае дзевяностыя. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 312 с.: іл.**

Новая кніга самага цікавага і неадназначнага беларускага пісьменніка сучаснай эпохі Альгерда Бахарэвіча. Гэта – найноўшая гісторыя краіны праз гісторыю сталення асобы. Дзевяностыя гады мінулага стагоддзя: такія ндаўнія і такія далёкія. Ці заслугоўваюць яны настальгіі? Якім быў горад Менск у тую раніцу беларускай незалежнасьці? Што нас захапляла і што палохала, як мы адкрывалі сябе, як білі-ся, пілі, як любілі – і аб чым марылі? Вядомы пісьменьнік Альгерд Бахарэвіч, маладосьць якога прыпала акурат на гэты «ліхі» час, спрабуе рэканструяваць яго ў сваёй новай, шчырай і наскрозь аўтабіяграфічнай кнізе. Апошнія канвульсіі СССР вачыма вучня сярэдняй школы, вольнае студэнцтва, літаратурная рэвалюцыя, беларускі панк-рок, драмы і камедыі прыватнага жыцця.




**Памук Архан. Стамбул: горад і ўспаміны. Пер. з тур. Т.І. Урублеўскай-Токер. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 500 с.: іл. – (Серыя «Noblesse Oblige»).**

«Стамбул. Горад і ўспаміны» – адна з самых вядомых кніг славутага турэцкага пісьменніка Архана Памука. Менавіта за гэты твор ён атрымаў Нобелеўскую прэмію ў 2006 годзе. Пісьменнік стварыў нязвыклую кнігу: раман-аўтабіяграфія, сямейная сага, энцыклапедыя горада, альбом з цудоўнымі здымкамі і гравюрамі. Аўтар вядзе чытача за руку па сваіх любімых вулках, напоўненых гукамі і пахамі роднага горада, не бачнага турыстам, схаванага ад мімалётных разявак… Як Дублін – Джойсам, Буэнас-Айрэс – Борхесам, так Стамбул услаўлены Памукам.




**Холе Стыян. Лета Гармана. Пер. з нарв. Ю.П. Цімафеевай. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 44 с.: іл.**

Гарман упершыню збіраецца ў школу, гэта яго апошнія летнія дзянёчкі свабоды і цудоўнай безадказнасці. Ён збянтэжаны і разгублены. А тут яшчэ і пажылыя цётачкі, якія прыязджаюць з «чужога часу» і прывозяць кожнае лета з сабою «раматус, артрыт і міндальны пірог». Гарман разглядае цётчыны зубныя пратэзы і распытвае цётачак пра смерць, час і страхі, якія хаваюцца ўнутры кожнага з нас. Нарвежскі пісьменнік і дызайнер Стыян Холе стварыў дзіўны свет, у якім яркія візуальныя вобразы і сур'ёзны і разам з тым просты тэкст пераплятаюцца ў адзінае дзівоснае цэлае.




**Карповіч Ігнат. Сонька: раман. Пер. з польскай мовы Марыі Мартысевіч. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 158 с.**

У жыцці беларускай сялянкі Сонькі ўсё скончылася «даўным-даўно», разам з вайною. Яна перажыла і адчула тады столькі, што пазьней ужо не жыла і не адчувала, усё, што ёй засталося, – гэта ўспамін і сабачы аброжак з гатычным надпісам. Выпадковая сустрэча на прасёлку наўпобліз падляшскай вёскі Каралёва Стойла дае пачатак гісторыі, якая нарэшце займела свайго слухача. «Сонька» – гэта вялікая і адначасова камерная, простая, хоць і нялёгкая, прыцішаная, хоць і жарсная, пацыфічная і адначасова брутальная гісторыя, перапоўненая каханнем. Аўтар скрыжоўвае канвенцыі ваеннай і мілоснай прозы, каб расказаць пра «даўным-даўно» і «цяпер», пра «тут» і «там», пра пекла і рай памяці.




**Сяргей Дубавец. Д'ябал запрэжаны ў плуг: апавяданні, аповесць. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 144 с.**

Дзеянне аповесці адбываецца ў наш час у чэшскай Празе і на штаб-кватэры амерыканскага Радыё Свабода. Героі шукаюць адказы на пытанні: Як стаць вялікім? Як прадзерціся праз гэтыя чортавы церні да зораў?




**Гавяліс Рычард. Віленскі покер: раман. Пер. з літоўск. Паўліна Вітушчанка. – Вільня: Логвінаў, 2018. – 660 с.**

Аповесць найноўшага класіка літоўскай літаратуры Рычарда Гавяліса з любоўю малюе зніклы побыт і дух савецкай Вільні, гэтак выдатна захаваны ў сучаснай Беларусі. Кніга адрасаваная гісторыкам джазу, а таксама шырокаму колу цвярозых, п'яных ці бясклапотных чытачоў.




**Обстфэльдэр Сігб'ёрн. Выбраная паэзія. Пер. з нарвежскай Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 96 с. (Паэты планеты).**

Сігб'ерн Обстфэльдэр (1866–1900) – нарвежскі паэт, які пражыў нядоўгае жыццё, але паспеў здабыць сабе вядомасць як адзін з пачынальнікаў скандынаўскага мадэрнізму ў інтымнай і філасофскай лірыцы. У яго творчай спадчыне найбольш значнае месца займаюць верлібры і вершы ў прозе.




**Бараташвілі Нікалоз. Паэзія. Пер. з грузінскай Ю. Голуба. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 84 с. (Паэты планеты).**

Нікалоз Бараташвілі (1817–1845) – вялікі паэт-рамантык, чалавек складанага лёсу. Цяпер яго лічаць класікам грузінскай літаратуры, аднак пры жыцці не было надрукавана ніводнага яго паэтычнага радка. Некалькі вершаў пабачылі свет праз сем гадоў пасля паэтавай смерці, а па выданні зборніка ў 1876 годзе Бараташвілі стаўся найпапулярнейшым паэтам у Грузіі, ці не другім следам за Шата Руставэлі.

## ■ НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Сцебурака А.М. Лісты да Жазефіны: ваенныя шляхі французскага афіцэра. 1805–1812. [манаграфія] / А.М. Сцебурака, Ф.-А. Мас. – Мінск: Нацыянальная бібліятэка Беларусі, 2018. – 137 с.: іл.**

Кніга з'яўляецца рэканструкцыяй жыццёвага шляху французскага афіцэра Шарля-Піліпа Фіта дэ Сусі – удзельніка шматлікіх ваенных кампаній Напалеона ў 1805–1812 гг. Шарль-Піліп быў прадстаўніком вядомага дваранскага роду, які пасля Рэвалюцыі 1789 г. імкнуўся знайсці сабе месца ў новых умовах і працягваў служыць Францыі. Асаблівае месца ў выданні займае апошні год жыцця афіцэра – удзел у вайне 1812 г.: драматычны і насычаны падзеямі эпізод, які адбываецца на беларускіх землях. Кніга абапіраецца на шматлікія дакументальныя сведчанні, якія захоўваюцца ў зборах Беларусі і Францыі. Асноўная гістарычная крыніца, якая дазваляе аднавіць падзеі, – унікальная калекцыя лістоў Шарля-Піліпа да жонкі Жазефіны, якая зберагаюцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.




**Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. №40. – Навукова-папулярны альманах аб беларускай эміграцыі. – Belarusan Institute of Arts and Sciences: New York–Miensk, 2018. – 796 с.**

Новы нумар альманаху «Запісы БІНіМ» прысвечаны розным аспектам беларускай прысутнасці ў ЗША. У выданні змешчаны перадрукі з беларускіх перыёдыкаў 1920-х гг. артыкулаў, прысвечаных суродзічам у Чыкага і штаце Мічыган, і выяўленыя гарадзенскім гісторыкам Аляксандрам Горным у маскоўскім архіве лісты Янкі Чарапука і Язэпа Варонкі да дзеячаў Рады БНР у 1923 г., спісы святароў і парафіянаў беларускай царквы Св. Юр'я, што дзейнічала ўжо ў паваенным Чыкага, а таксама лісты-сведчанні пра беларускія асяродкі ў Нью-Джэрсі і Ілінойсе грамадскага дзеяча Аляксандра Асіповіча-Асіпчыка і іншыя тэксты.




**Трус Мікола. Купалаўскія адрасы ў Славакіі. Аўт. прадм. М. Сэрватка; навук. рэд. І. А. Чарота. – Мінск: Медысонт, 2018. – 286 с.: іл.**

У манаграфіі асвятляюцца невядомыя старонкі жыццяпісу Янкі Купалы і гісторыі беларуска-славацкіх культурных сувязей. Праца з архівамі дазволіла дэталёва прадставіць падарожжа па Славакіі ў кастрычніку 1935 года дэлегацыі савецкіх журналістаў і пісьменнікаў, у якой браў удзел класік беларускай літаратуры. У навуковы зварот уводзіцца шэраг невядомых дакументаў і матэрыялаў: інтэрв'ю, аўтографаў, фотаздымкаў, замежных газетных публікацый і інш. Плённыя навуковыя росшукі сталі фактаграфічнай асновай шэрагу міжнародных ініцыятыў, у тым ліку беспрэцэдэнтнага культурнага праекта «Славацкімі шляхамі Янкі Купалы», ажыццёўленага ў чэрвені 2015 года. Такім чынам прадэманстравана інтэграванасць навукі ў сучасную практыку міжнароднага супрацоўніцтва.




**Новый Завіт: Новы Запавет Госпада нашага Ісуса Хрыста. Пер. на заходнепалескую гаворку Фёдара Данілавіча Клімчука. – Мінск: Медысонт, 2019. – 322 с.**

У кнізе зроблены пераклад Новага Запавета на заходнепалескую гаворку вёскі Сіманавічы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці. Упершыню пад адной вокладкай сабраныя ўсе часткі перакладу. У выданні захавана аўтарская паслядоўнасць тэкстаў. Адрасуецца мовазнаўцам і ўсім, хто цікавіцца моўнай спадчынай Беларусі.




**Сьвятлана Алексіевіч. 100 цытатаў на Свабодзе. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2019. 268 с.**

Новую кнігу з серыі «Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе» складаюць выбраныя фрагменты вусных выказванняў першай у Беларусі лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі ў галіне літаратуры, якія цягам двух дзесяцігоддзяў гучалі на хвалях Радыё Свабода.




**Тадэвуш Касцюшка ў дыскурсе 200-гадовай прасторы памяці: матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 22 чэрвеня 2017 г.). – Мінск: Энцыклапедыкс, 2018. – 162 с.: іл.**

Матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, праведзенай Цэнтрам даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры ў рамках абвешчанага кіраўніцтвам Беларусі Года навукі, прадстаўляюць даклады беларускіх і польскіх даследчыкаў пра жыццё і дзейнасць Тадэвуша Касцюшкі, а таксама пра яго значэнне ў гісторыі і мастацтве. Выданне характарызуецца навізною навуковых даследаванняў і цікавымі, часам дыскусійнымі меркаваннямі.




**Герасімчык Васіль. Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. – 229 с.**

Імя Кастуся Каліноўскага (1838–1864) добра вядомае беларусам і даўно стала легендарным. Каліноўскаму прысвечаны шматлікія навуковыя і мастацкія творы, але даследчыкі працягваюць рабіць цікавыя адкрыцці, знаходзячы невядомыя раней дакументы і ўспаміны. Кніга «Канстанцін Каліноўскі: асоба і легенда» створана на аснове матэрыялаў з архіваў і бібліятэк Літвы, Беларусі, Расіі і дазваляе зірнуць на асобу правадыра паўстання 1863–1864 гг. не толькі як на лідара і ідэолага нацыянальна-вызваленчага руха на беларуска-літоўскіх землях, але і пазнаёміцца з працэсам фарміравання яго поглядаў.




**Конан Уладзімір. Уладзімір Самойла: Выдатны мысляр беларушчыны. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Уладзімір Самойла (1878–1941) – бліскучы літаратурны крытык, публіцыст, філосаф, мысляр еўрапейскага ўзроўню. Аўтар выдатнай філасофскай працы «Гэтым пераможаш!», шматлікіх літаратурна-крытычных эсэ і публіцыстычных артыкулаў. Ахвяра сталінскіх катаў.




**Тарас Анатоль. Леанід Аляксееў: Патрыярх беларускай археалогіі. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Леанід Аляксееў (1921–2008) – расійскі гісторык і археолаг, які прысвяціў 55 гадоў свайго жыцця вывучэнню старажытнасцяў сярэднявечнай Беларусі. Займаўся праблемамі гісторыі навукі, археалогіі, гісторыі архітэктуры і мастацтва Беларусі IX–XIII стст. (у тым ліку Смаленшчыны), вывучаў гісторыю археалогіі і краязнаўства гэтых рэгіёнаў, склаў іх падрабязныя археалагічныя карты.




**Севярынец Павел. Каменнае сэрца. – Мінск, 2018. 286 с.: іл. – (Серыя «Беларуская турэмная літаратура»; вып. 6).**

Кніга «Каменнае сэрца» – зборнік эсэ палітычнага вязня Паўла Севярынца, напісаных за апошнія дваццаць гадоў. Кароткія гісторыі з беларускай няволі – «сутак», «хіміі», турмаў – паказваюць сённяшнюю Беларусь знутры. Жыццё ва ўмовах рэжыму як яно ёсць.

Кніга «Лісты з лесу», фрагменты з якой вы зможаце прачытаць тут, была прызнаная штотыднёвікам «Наша Ніва» найлепшай беларускай кнігай 2007 года, а «Беларуская глыбіня» (тут размешчаныя выбраныя главы) – стала лаўрэатам прэміі імя Францішка Аляхновіча. «Каменнае сэрца» змяшчае таксама і шэраг тэкстаў Паўла Севярынца, якія яшчэ не публікаваліся.

**Гісторыя Расіі ад сярэднявечча да сучаснасці: нарысы. Аўт.-склад. Алег Трусаў, Лявон Баршчэўскі, Аляксей Хадыка. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 536 с. [іл.].**




Гісторыя Расіі нязменна выклікала цікавасць еўрапейскіх народаў, а найперш суседзяў. Гэтая кніга ўяўляе сабой спробу даць сінтэтычнае асэнсаванне расійскай гісторыі ад Сярэднявечча да нашых дзён, з беларускага гледзішча і на беларускай мове. У аснову кнігі пакладзены вынікі даследаванняў як расійскіх гісторыкаў і археолагаў, так і іх калег з розных краін Еўропы. Выданне забяспечана грунтоўнай бібліяграфіяй на 12 мовах свету. У кнізе таксама змешчана вялікая колькасць ілюстрацый, частка якіх ніколі не публікавалася.




**Масавыя рэпрэсіі ў СССР у гістарычных даследаваннях і калектыўнай памяці: навуковы зборнік. Пад рэд. д-ра гіст. н. А. Смаленчука і канд. гіст. н. А. Кандрацюк. – Мінск: Зміцер Колас, 2018. – 608 с., іл.**

У зборнік увайшлі тэксты беларускіх, украінскіх, польскіх і расійскіх даследчыкаў праблематыкі савецкіх рэпрэсій 1920–1980-х гг. У цэнтры ўвагі – падзеі г. зв. «Вялікага тэрору» 1937–1938 гг., знішчэнне сялянства падчас «кулацкай аперацыі» ДПУ–НКУС, расправа з інтэлігенцыяй, рэпрэсіі перыяду Другой сусветнай вайны і першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Матэрыялы зборніка дапамагаюць уявіць не толькі маштабы савецкіх рэпрэсій супраць Чалавека і Грамадства, але і наступствы гэтага злачынства, адчувальныя нават у XXI ст.




**Рубінчык Вольф. Выбраныя катлеты і мухі. Мінск: Шах-плюс, 2018. – 136 с.**

Восьмая кніга мінскага палітолага, перакладчыка і даследчыка шахматнай мінуўшчыны. Складаецца пераважна з назіранняў за навакольным асяроддзем і за выкідамі, што былі зроблены ў 2015–2016 гг., – як карыснымі, так і шкоднымі. Для правільнага кола чытачоў.




**Пра паганства і балтаў: зб. артыкулаў. Укладальнік Алесь Мікус. – Смаленск: Інбелкульт, 2018. – 192 с.**

Кніга складаецца з тэкстаў, што прысвечаныя дзвюм тэмам – «балцкае паходжанне беларусаў» і «дахрысціянскі светапогляд і культура беларусаў», але пры гэтым не перагружаныя навуковай лексікай. У кнігу ўвайшло таксама даследаванне пра паганскія рухі ў краінах навокал Беларусі.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:

**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademknigaminsk@mail.ru, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43, **«Кнігарня пісьменніка»** (вул. Казлова, 2), **«Веды»** (вул. К. Маркса, 36), **«Светач»** (пр-т Пераможцаў, 11), **«Цэнтральны кніжны»** (пр-т Незалежнасці, 19), **«Кніжная Шафа»** (пр-т Дзяржынскага, 9), **«Кнігі & кніжачкі»** (пр-т Незалежнасці, 14), **Кніжная выстава-кірмаш «Мир книг»** (пр-т Пераможцаў, 84).

А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, januskevic.by, bookstore.lohvinau.by, kniharnia.by і halijafy.by.

■ ІМПРЭЗЫ

# Восьмы Стральцоўскі фэст

У зале рэстарана «Сёмае неба» 15 лютага прайшло ўрачыстае адкрыццё Восьмага міжнароднага паэтычнага фестывалю «Вершы на асфальце» памяці Міхася Стральцова. Адкрылі вечарыну арганізатары – старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч і ганаровы старшыня Беларускага ПЭН-Цэнтра Андрэй Хадановіч.

Першы дзень традыцыйна мае ўрачысты характар, бо менавіта падчас адкрыцця праходзяць цырымоніі ўручэння дзвюх літаратурных прэмій: адной з найстарэйшых – прэміі часопіса «Дзеяслоў» «Залаты апостраф» – і адной з самых новых – імя Міхася Стральцова. Апошняя з узнагародаў, прэмія імя Міхася Стральцова, была ўпершыню ўручаная летась, калі ёй быў уганараваны паэт Алег Мінкін. Як і ў мінулы раз, усё трымалася ў сакрэце да апошняга і агучанае імя было абсалютнай нечаканасцю для ўсіх прысутных. Балазе, лаўрэатка сёлетняй стральцоўскай прэміі стала маладая паэтка з Іспаніі Анхела Эспіноса Руіс.

Да цырымоніі паэтка атрымала шыкоўны падарунак – выдадзеную Саюзам «лаўрэацкую» кнігу выбраных твораў «Колер Крылаў», куды ўвайшлі не толькі вершы, але і эсэ, пераклады, створаныя ў апошнія гады. Нягледзячы на абсалютна нестандартнае рашэнне журы, зала вельмі цёпла прыняла і прывітала новую лаўрэатку прэміі, якая падзякавала ўсім і сказала прачулую прамову пра сваё бачанне літаратуры.

Неўзабаве былі абвешчаныя новыя лаўрэаты «Залатога апострафу». У галіне паэзіі ўзнагароду атрымаў заслужаны ветэран беларускай літаратуры, паэт Васіль Васільевіч Зуёнак. Найлепшай празаічнай публікацыяй 2018 года была прызнаная проза Уладзіміра Сцяпана. У намінацыі «Дэбют», як адзначыў галоўны рэдактар «Дзеяслова» Барыс Пятровіч, разгарнулася найбольш вострае абмеркаванне, канкурэнцыя была вельмі вялікай. У выніку прэміяй адзначылі Марыю Бадзей. Усе пераможцы былі вельмі ўсцешаныя прэміяй, і асабліва адзначылі важнасць яе ўручэння падчас Стральцоўскага фэсту, бо імя Стральцова называлася сярод найважнейшых літаратурных імёнаў у іх жыцці.

Наступны блок прадстаўляў уласна паэтычную творчасць найлепшых беларускіх літаратараў і замежных гасцей з Літвы, Украіны і Швецыі.

Першы дзень Стральцоўскага фэсту быў вельмі насычаным і разнастайным па змесце і прайшоў пры поўнай залі, што засведчыла цікавасць да мерапрыемства.

**Прэсавая служба СБП**

■ АЎТОГРАФ

# «Мова – адбітак жыццёвага шляху чалавека...»

(Пачатак на стар. 1)

– Тэмай дыяспары я зацікавілася дзякуючы майму калегу і суаўтару, нью-ёркскаму архівісту Лявону Юрэвічу. Менавіта ён, калі я пасля сканчэння дысертацыі на пачатку 2000-х шукала сабе новы напрамак даследаванняў, скіраваў мяне да эмігрантаў. Недзе ў той час я ўдзельнічала (з падачы таго ж Лявона) у падрыхтоўцы да выдання «Хронікі беларускага жыцьця на чужыне» Міколы Панькова і вельмі абурылася, што шмат якія ініцыялы эмігрантаў у гэтай працы немагчыма было расшыфраваць, іх ніхто не ведаў. Прыкладна тады і з'явілася жаданне нешта зрабіць, каб пра лёсы і даробак замежных суродзічаў ведалі на Радзіме. І ўжо цягам болей як 15 гадоў гэтым і займаюся.

**– Нядаўна выйшла кніга ўспамінаў беларускай мастачкі Тамары Стагановіч-Кольба «Абрэзкі з мінулых гадоў», падрыхтаваная і адрэдагаваная Вамі. Распавядзіце, чым адметная гэтая кніга серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» і якія Вашы далейшыя творчыя і выдавецкія планы?**

– Успаміны Тамары Стагановіч адметныя і сваёй гранічнай шчырасцю, і часам маляўнічай дэталёвасцю, якой паспрыяла тое, што аўтарка – прафесійная мастачка. Прадстаўнічка гэтак званага «пакалення Ды-Пі» – тых, што нарадзіліся ў Беларусі, але атрымлівалі адукацыю ў лагерах для перамешчаных асобаў у паваеннай Нямеччыне і прафесійна рэалізоўваліся на эміграцыі, спадарыня Тамара шмат увагі надае не толькі згадкам дзяцінства на міжваеннай і ваеннай Навагрудчыне, але і багата распавядае пра навучанне і прафесійнае станаўленне ў ЗША.

Асабліва варта згадаць пра мову ўспамінаў Тамары Стагановіч, бо пра гэта ўжо былі дыскусіі з чытачамі. Аўтарка амаль не вучылася ў беларускай школе, асноўная яе адукацыя была ўкраінская і амерыканская, асяроддзе, у якім яна жыла, таксама было мяшанае, – і ўсё гэта адбілася на яе мове. І пры публікацыі ўспамінаў мы стараліся захаваць гэтыя асаблівасці, не прыгладжваць, не прычэсваць тэкст, не рабіць яго «больш літаратурным». Магчыма, гэта зрабіла ўспаміны больш складанымі для ўспрымання і з такім падыходам пагаджаюцца не ўсе. Прыкладам, светлай памяці Зміцер Саўка, калі рыхтаваў да друку тэкст успамінаў іншага эмігранта Адама Варлыгі (Язэпа Гладкага), моцна габляваў мову і стыль аўтара, імкнучыся зрабіць тэкст больш чытэльным. Але для мяне ва ўспамінах важная не толькі факталогія, але і мова, якая з'яўляецца адбіткам жыццёвага шляху чалавека. Яна можа быць не вельмі лёгкая для ўспрымання, але, па-мойму, гэта неад'емная частка мемуараў.

Калі казаць наконт планаў, то іх, як заўсёды, багата. Неўзабаве чакаем выхаду з друку працы таго ж Змітра Саўкі, прысвечанай гісторыі Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, якую аўтар не апублікаваў пры жыцці і якую хацелася бачыць надрукаванай. Таксама на шляху да выдання анталогія артыкулаў знакавых эміграцыйных газет «Бацькаўшчына» і «Беларус». У гэтых перыёдыках друкавалася багата ўспамінаў, даследчых працаў, цікавай публіцыстыкі, якая не згубіла сваёй актуальнасці і сёння. Гэта ўсё нам хацелася паказаць сучасным метрапольным беларусам. Згаданыя выданні выходзяць у серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» і рыхтавала іх я супольна з ужо згаданым Лявонам Юрэвічам.

У планах на гэты год яшчэ і новы выпуск альманаху «Запісы БІНіМ», гэтым разам ён будзе прысвечаны беларусам у Канадзе. Ён з'яўляецца часткай маёй працы над кнігай, прысвечанай канадскім беларусам. Таксама сёлета мы з Лявонам Юрэвічам пачынаем працу над выданнем альбома-даведніка «Беларускія могілкі ў свеце», грошы на які цяпер збіраем. Наогул спіс вялікі, але гэта найбліжэйшыя праекты, над якімі ідзе праца.

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Святлана Явар. Дзівосны сад. Выбранае / Укладанне Т. Барадулі. - Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 108). – 276 с.**

Святлана Явар – малодшая дачка Барыса Сачанкі. Скончыла філалагічны факультэт БДУ і аспірантуру Інстытута мовазнаўства (абараніла кандыдацкую дысертацыю па творчасці Масея Сяднёва). Працавала журналістам, выкладчыкам, навукоўцам. Раптоўна памерла ў чэрвені 2011 года. У выданне ўвайшлі вершы з двух прыжыццёвых зборнікаў, вершы розных гадоў, а таксама празаічныя творы, што дае магчымасць «адчуць усю глыбіню яе найтанчэйшай повязі з жыццём і вышыню яе памкненняў, напраўду містычных прасвятленняў».




**Мікола Пракаповіч. Прытулак памяці. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 110). – 260 с.**

Пабачыў свет зборнік вершаў і наэм Міколы Пракаповіча са змястоўнай прадмовай Алеся Каско, якую ён паспеў напісаць незадоўга да сыходу ў вечнасць. *«Мне, як і ягоным чытачам, ад самага пачатку ў вершах Міколы Пракаповіча імпанавала яшчэ адна, апрача патрыятычна-багдановічаўскай, пуцяводная зорка: мройная зорка свабоды чалавека ад гвалту; прыніжэння, неабходнасці быць «вінцікам» бяздушнага грамадскага механізму. Паэт нярэдка <...> выходзіць на маштабныя філасофскія абагульненні, і ўсё ж агульналюдскія каштоўнасці і каштоўнасці нацыянальныя ў яго неад'емныя, дзве іпастасі свабоды злітныя, як святло падвойнай зоркі ў Сусвеце»*, адзначаецца ў прадмове.

Вершы, сабраныя ў кнізе «Прытулак памяці» са зборнікаў розных гадоў, – як адбіткі шляху душы. За кожным вершам – ці жыццёвая сітуацыя, ці шчаслівая сустрэча, ці роздум на самоце. Яны абавязкова закрануць запаветныя струны неабыякавага да паэзіі чытача, адгукнуцца, паклічуць да сумоўя.




**Віктар Ярац. Зямныя эцюды. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 111) – 92 с.**

У кнігу «Зямныя эцюды», выхад якой прымеркаваны да 70-годдзя аўтара, увайшлі вершы паэта апошніх гадоў, у якіх новыя перажыванні і фарбы настрояў, а таксама – адноўленыя ўспаміны аб пройдзеным ды перажытым.

У рэчышчах, як чуйных капілярах // зямнога цела, плынь штогод мутней. // І не бруіцца рэчка, як раней, // дзе заплылі жыўцы. // Блукае ў хмарах // бяссонне чыстай кроплі, што з зямлёй // баіцца сустракацца. // І шукае // душа людская страчаны спакой // на берагах. // І як знайсці – не знае.

## КАНТАКТЫ


Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65





ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 54
сакавік, 2019
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 54 08.04.2019.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com